Праўда, можа, ён і не сын божы,
Ды з такою ж барадою гожай.
Такі велічны і мудры дзед.
Сын яго ўзначаліў гарсавет.
Расказала б многа аб Хрыстосе,
Гэта значыць, аб жывым Фядосе.

Як яго фашысты катавалі,
На крыжы яго як распіналі.
Не. Расказ мой не пад сілу мне,
Ён пад сілу хіба што вайне.
Лепш давайце мы яго мінем…
А вось — здымак цёткі на сцяне.
На тым здымку цётка у труне.

**Плач**

Слёзы мае!
Выплакаў хто вас?
Шчокі сухія, і вочы, і сэрца.
З горла не вылавіць нават і слова,
Душа — сухадол, ні ракі, ні азерца.

Сэрца маё — жарынка малая,
Гэтак пячэ, што не знойдзеш і месца.
Кінь у душу і яна запалае!
Разам з душою абвугліцца сэрца.

Чорны боль, як закляты Чарнобыль,
Займецца, нібы полымем голле.
Мае з бядою аднолькавы колер —
Чорны боль мой.

Вершы таму на белай паперы
Вугалем чорным пішу — сваім сэрцам.
Зараз, хто верыць мне і не верыць,
Мусіць чытаць іх, нікуды не дзецца.

Слёзы мае, хто вас прасіў?

З самага сэрца людзям на вочы.
Цяпер, хто хоча і хто не хоча
Мусіць усцешыць…
Хто вас прасіў?

**Дзяды**
Я заплюшчу вочы, прыгадаю…
Жменяй цётка семкі насыпае.
Хто ні прыйдзе, за рукаў хапае
І ўсё просіць: «Ну пабудзь яшчэ!»
І смяецца… А сляза — з вачэй.
Многа ў цёткі хто ў гасцях бывае:
Іван-Цяпця, Вольгачка дурная,
Нават райсабес не забывае,
Пенсію штомесяц высылае.
Толькі… Столь у цёткі прагнівае.
Ну і што з таго? Яна ж трывае,
І не бачыць Лёкса, бо сляпая.
Што калгасу не да цёткі — плёткі!
Жывым думаць пра жывое ўсё-ткі.
Вось на дыскатэку — трэба сродкі!
Цётка ж хай засее свае соткі.
І каня дадуць, і возік гною,
Справа пойдзе ўжо сама сабою.
Знойдзецца і сейбіт, і араты,
Як на чарку не скупая хата.
Так вядзецца ў вёсцы, цётка знае,
Чарку днём са свечкаю шукае.
Хоць не п'е сама,
Не шкода грошай,
Калі вып'е чалавек харошы.
Хто за гэта цётку асуджае?
Яна ў вёсцы не адна такая:
Шчырая, нібыта незямная,
Па-зямному век свой дажывае.
— А Гуранчыха мне зайздросціць, і
Мне цётка хваліцца,
Гаворыць, што суседкі

Ка мне ўсё ходзяць, ходзяць
У адведкі,
А да яе — ніводная душа...
І хлебны квас мне падае з каўша.
Я п'ю набгом і не магу напіцца,
І з цёткі не магу не надзівіцца:
Няхітрая, наіўная такая,
Нібы дзіцё малое ці святая.

Ну вось і ўсё...
Хай цётка спачывае.
І зноў у хаце цішыня такая,
Ажно чуваць, як прамяні пускае
У вокны цэзій. І крылом махае
Адважны бусел над знямелым гаем,
Над хатай цётчынай,
Над родным краем...
І ў клёкаце з журботнаю вібрацыяй
Палошчуцца даджынкі
З радыяцыяй...

**Замова**

У гняздзечку птушка
Шчабятала,
Багародзіцу-заступніцу
Гукала.
— Не я выклікаю,
Не я замаўляю,
А Багародзіца
Прасвятая.
Сваімі рукамі —
З роднага краю,
Сваімі вуснамі —
З беларусаў.
Сваім святым духам
З птушынага пуху,
З сястрыцы і братца —
Усю радыяцыю:

Ветравую і верхавую,
Штохвілінную і штогадзінную…
З моцных касцей,
З белага цела,
З чырвонай крыві,
Каб не балела
Жывым.

Амінь.

* * *

Няўжо нехта
Яшчэ вершы піша
І пра шчасце марыць
І любоў?
У прышэльцаў верыць
І Ўсявышняга...
Божа міласэрны!
Няма слоў.
Мне ж пра гэта
Нават сны не сняцца,
Хіба што
Бяссонніца адна,
Як з малымі,
Любіць забаўляцца
З думкамі маімі
Давідна.

* * *

Збіраю шолахі
Вятроў і траў,
І ліўняў подыхі,
Што май прыслаў.
Раку з бяздоннай
Глыбінёй
Мяшаю з зорнай
Вышынёй.

Радкі, як пчолка,
Свае збіраю,
Што выдзе толькі,
Пакуль не знаю.

* * *

Не для адводу
Ад людскіх вачэй
Я гавару вам:
Нам не чуць няможна,

Як дыхае Чарнобыль
Ля дзвярэй.

Хоць вось яно —
Зноў свята пасля стратаў!
Ці ж забароніш
Птушкам гнёзды віць?
І зноў пішчаць
У гнёздах птушаняты,
А людзям зноў у іх
Вучыцца жыць.

* * *

*Валянціне Таянковай*

Твая душа неўтаймаваная —
Гняздо на вершаліне высахлай...
І для мяне заўжды жаданая,
Пакуль і не засыпле прысак.

Калі ж з душы тваёй сарвецца
Святая песня... Я тады
Лячу і розум свой, і сэрца
І пазбаўляюся нуды,

Калі з душы тваёй сарвецца
Святая песня...

І гады —
Як торба, сто раз цыраваная —
Ляжаць закінута, прыціхлыя.
Са мной душа неўтаймаваная —
Гняздо на вершаліне высахлай...

Залечыць дрэва свае раны
І ўстрапянецца птушкай высака!

* * *

Як разгарэліся ў траве
Жарынкамі суніцы,
І неба па рацэ плыве
Самотнаю грамніцам
Сляза нячутна упадзе
На баравік з ігліцай.
Ці бліскавіца на вадзе,
Ці, можа, маладзіца?

Свой выклік кінула бядзе,
Смяецца, як дурніца...

А сэрца — бусляня ў гняздзе —
Пад рогат навальніцы
Вось-вось, здаецца, упадзе
У вогнішча суніц.

* * *

*Лідзіі Возісавай*

Лепей будзе ці горай,
Лечыць ці замінае?
Сяброўка мая ці вораг?
Заблыталася. Не знаю.

І кактус на падаконніку
Цвіце, як вясной акацыя,
Вабіць вока і колецца,
Можа, і мае рацыю.

І васілёк улетку,
Каму — адно пустазелле,
Каму прыгожая кветка,
Каму ад хваробы зелле.

## СЯБРОЎКА

А нехта
Набіваецца ў сяброўкі
І спачувае табе ў горы
Лоўка!
Ані заганы у табе
Не бачыць,
А толькі вартасці
І не іначай.

І вось яна —
Сама прамень яскравы.
І злое слоўца
Толькі для забавы.
І толькі ворагу,
І то ў журбе…
Ну й што з таго,
Калі і пра цябе?!

Табе ж у вочы
Толькі кветкі, кветкі!
Таму і рукі,
І суседка — сведкі.
Ды звялі кветкі гэтыя
Заўчасна.
Ну вось і дружба ўся,
Прамень мой ясны!

## ІСЦІНА

Мы ісціну адшукваем упарта
У сутнасці няроўнага жыцця.
І перад намі контурнаю картай
Яна раптоўна выплыве з быцця.

Праб'е наш час…

І мы ўжо маем ісціну:
Аголеную — немаўля,
Абноўленую —
Веснавое лісце,
Акрэсленую ісціну —
Зямля.

* * *

*Памяці Міхася Стральцова*

Зіма была
Стараннай гаспадыняй,
Бяліла кветку, дрэвы…
І твой смех…
І пах ён снежна,
І кружыў няспынна
Над намі, як анёл,
Бялюткі снег.

З-пад снегу,
Помніш,
Выглядалі шышкі.
І рэха ў гай
Лілося цераз край…

Міхась, прызнайся,
Ты стаміўся крышку?
Прылёг,
Як снег той,
Хопіць, уставай!
Алеся вырасла,
Заве на каравай!
Давай руку,
Глядзі — вавёрчын след!

А рэха галасіла
На ўвесь свет…

* * *

Вершы мае,
Мае летуценні!
Калі нада мною
Збягаюцца цені,
Калі дых займае
Ад markdown рознае дрэні,
Калі ад бяды
Не ўратуюць і сцены,
Я вамі жыву,
Я вамі жыву!

Сябры мае шчырыя —
Валі і Жэні,
Калі роднай глебы
Не чуюць карэнні,
Калі зрок губляе
Лістоты адценні,
Калі не знаходжу
І ў Бога збавення...
Я вамі жыву.

Калі упаду,
На апошнім імгненні,
Асвеціць труну маю
Свечак мігценне.
Сябры мае верныя!
Да пабачэння!
Вазьміце з сабой
Маіх вершаў праменні
І я ажыву,
І я ажыву.

* * *

*Ніне Серыкавай*

Губляе бэз бесперапынна
Пялёсткі белыя ў траву…
Напамінае ён жанчынам —
На свеце толькі раз жывуць.

О мая мілая сяброўка!
Галінка бэзу — ты, хацця…
Было і соладка, і горка,
Але было зусім няўцям,

Што ты цудоўная такая!
Да кожнай рысачкі свая.
І маім вершам не чужая,
І майму гораду радня.

Дык не сумуй. Глядзі, вунь птушка
Расы нап'ецца і пяе,
Галінка бэзу птушку гушкае,
Пялёсткі свецяцца ў траве.

**ВАМ**

Ці ж вам не сорамна, сябры,
Што, нібы яблычак пад плотам,
Мяне шпуляюць гандляры
Сваім наваксаваным ботам?

Куды ж падзець мне божы дар,
Душы маёй скразное рэха?
Калі Вы добры гаспадар
Мяне ўпусціце, а то грэх Вам.

А я усім вам расчыню
Душу сваю і сваё сэрца.
Бліжэй сядайце да агню,
Калі вам трэба адагрэцца.

Ці бачыце вы, як гарыць
Гадамі ўсыпана галінка?..
Ці чуеце, мой верш звініць
У вуснах кожнае жарынкі?

На здымках на адвароце (злева направа): Ніна Серыкава, Валянціна Таянкова, Таіса Мельчанка, Васіль Ткачоў, Юрый Фатнеў, Міхась Башлакоў, Генадзь Говар.

* * *

Яблыкі на Яблычнага Спаса
У царкву свяціць народ ідзе...
Помніш, сад у квецені і нас —
Белых два пялёсткі ў цемнаце?

І было такое пачуццё,
Што ў раю знаходзімся з табою.
Ці то з кветак яблыні касцёр,
Ці сам Бог стаяў над галавою?

Усю ноч... Са свечкай у руках,
Паўтараючы малітвы словы.
Церпяліва Божанька чакаў,
Каб паспелі яблыкі любові.

Яблыкаў на Яблычнага Спаса
У царкве так многа, як людзей...
Людцы добрыя мае! Для вас
Сёння яблыня мая цвіце.

* * *

Захацелася мне ведаць,
Як жывеш ты.
Вельмі часта гэтым летам
Снішся нешта.

Толькі лецейка
Нядоўга ў нашым краі.
Вось яшчэ адзін лісточак
Ападае...

Вось яшчэ у вырай стая
Адлятае...
Жураўліная парода ўжо
Не тая.

І сініца мне у рукі
Не далася,
Як прыйшлося гараваць —
І не пытайся.

Мы ж сустрэліся з табою
Так спантана!
Ты стаяў журбою нейкай
Апантаны,

Як па восені забыты
Баравік...
Калі так, то я —
Шчаслівейшы грыбнік!

Падхаплю руплівa свой
Баравічок,
Асцярожненька згарну
У кулачок.

Суцяшаць грыбніцу прыйдзецца
Вужу.
Я ж нікому баравік
Не пакажу.

* * *

Вуснамі лаўлю тваё дыханне
І набгом яго бясконца п'ю...
І нястрымнае расце жаданне
Выдыхнуць дрыготкае «люблю».

Як трава вясной, тваё дыханне
Прарастае ў маіх грудзях...
Абдымаю ўвесь свет рукамі
І лячу, нібыта ў небе птах.

Ты і я, і белы свет... Над намі
Нашае каханне, нібы сцяг.

* * *

Разлагодзішся,
Разлагодзішся!
У абдымках маіх,
Мой харошы!
Нібы ягады на прыродзе,
Сабяру сваю ласку
У кошык.
Да краёчкаў яго напоўню,
Асцярожненька паднясу,
Будзе доўга дзівіцца поўня
На тваю і маю красу.
Ахіну цябе, любы, каханнем,
Як святы абразок — рушніком.
І спавіты маім дыханнем
Ты заснеш,
Як дзіця над саском.

## НЕ ТАКІ, ЯК УСЕ

І навошта тады
Са мной побач ты сеў,—
Не такі, як усе,
Не такі, як усе?

І чаму ты глядзеў,
Як падаў паліто,
На мяне, як ніхто,
На мяне, як ніхто.

І цяпер я хачу
Табе сніцца у сне,
Не такой, як усе,
Не такой, як усе.

**Я НЕ ДЛЯ ВАС...**

Са сваім глупствам
Напаказ,
Са сваёй праўдай
Без прыкрае,
Са смехам
У нядобры час —
Я не для Вас,
Я не для Вас.

Са сваёй даўняю
Бядой,
Яшчэ не высахлай слязой,
З душою,
Дзе агенчык згас,
Я не для Вас,
Я не для Вас.

І толькі
У начной журбе
Я ўся твая
І для цябе.
І гэта мой апошні сказ:
— Я не для Вас...

* * *

Ну што ты кажаш?
Небыліца!
Не сніцца нават і у сне,
Як адбівалася дурніца,
Ад тых, хто так любіў
Мяне.

І не лаві паветра ротам,
Глядзі, якую прыгажосць
Хавала ад людзей і плётак,
А пахавала — маладосць.

Ты ж не баішся нават кулі,
Такі дубочак малады.
Не закахайся ў зязюлю,
Яна ўкрадзе твае гады.

Кахай мяне,
Пакуль бы ў хвоі,
Тырчаць і колюцца саскі.
Мы так нацешымся з табою,
Падмяўшы ў жыце каласкі,
Што не заўважым, як анёлы
Нам зробяць з воблакаў шацёр
І як нячысцік сярод голых
Русалак…
Ледзьве не памёр.

* * *

А нядаўна так шумела
Юнае маё жыццё!
І стаяла я няўмелая:
— А дзе ж мудрасць?
Каб знаццё!

Мае дрэвы! Вам за дваццаць,
І мне гэтулькі ж гадоў.
Адплывае ў сон юнацтва
Ды няма ўсё мудрых слоў.

І аднойчы мне здалося,
Што шапнулі кроны дрэў:
— Быць наіўнаю не бойся,
Дрэнна тым, хто стаў мудрэй.

Вось рабінай пераспелаю
Зажурылася жыццё…
Я, напэўна, пастарэла,
Дзе ж наіўнасць?
Каб знаццё!

* * *

Ветразь скача, нібы лось,
Хвалі — у пагоню! 1
Акунуся ў маладосць,
Як у рэчку коні.

Супынюся на скаку,
Што рабіць цяпер-тка?
Углядаюся ў раку,
Нібы у люстэрка.

Ды цячэнне пакрысе
Ветразь мой агорае,
Нас абодвух панясе,
Нібы рэчку ў мора.

Ветразь на вадзе, як лось,
Хвалі — у пагоню!
Не дагоніш маладосць, *
Шпарка скачуць коні.

* * *

На старэнькім,
                    як сама,
                                        пяньку
Села бабка,
Жоўтую руку
Палажыла,
Нібы ліст сухі,
На сваім гарбаценькім кійку.
А зязюля ўсё крычыць:
«Ку-ку!» —
За лістом зялёным у цяньку,
Нібы бабцы:
«Будзеш жыць».
І у той сляза з вачэй бяжыць…

* * *

Сонца расплюшчыла вока сваё
Адно.
Пазалаціла ў хаце маёй
Акно.
Чыстая, чыстая ў небе зара.
Ранняя, ранняя ў полі
Пара.
Сонца расплюшчыла вока другое —
Устань.
Як заранiца на небе іграе —
Глянь.
Пойдзем. Ліецца святло
На зямлю.
З цёплых далоняў пасадзім прамень
У раллю.

* * *

*Юрыю Фатневу*

У творы акунуўся з галавою!
Нібы ў вір.
Віруе з небыцця
То Уладзімір з Вольгаю,
То воі
Радзімічаў,
То Зегзіцы дзіця.

І вось перад вачамі
Лес цнатлівы.
У ім свае і чалавек, і звер,
Лясун і Велес,
І Пярун зычлівы,
Што перад намі
Ажылі цяпер.

Не адмахнуцца
Ад блакітнай магіі,
Ад сон-травы,

Ад яблык Лены Вагінай...

Дык вось чаму
Твая рука бярэцца
Спачатку за пяро,
Затым за сэрца.

* * *

Прывітанне, Юра, прывітанне!
Зноў зашыўся ў свае пласты
Старажытныя. Ужо світанне!
Чуеш, ці не чуеш мяне ты?

Выплывае, як бабёр з балота...
Дыяменты на вусах блішчаць,
Вочы перапоўнены журботай
Нават на ілбе яе пячаць.

Чалавек. Паэце наш свабодны!
Са свабоды той — ні даць, ні ўзяць.
Можа, наракуць калісь народным
Можа, праз дрыгву пралажаць гаць.

А пакуль, Юраська, прывітанне!
Паглядзі, гарлачык залаты
Разгарэўся ў небе. Са світаннем!
Чуеш, ці не чуеш мяне ты?

* * *

*На запрашэнне да свята*

— Не прыехала. А так чакалі...
— Няўжо чакалі? Дзякуй вам, сябры!
Як лёсам разарваныя каралі
Рассыпаны. І паспрабуй збяры.

За пацеркаю пацерку збіраю
Нанізваю. Які вялізны рад!
Вось Генрых Далідовіч, вось і Рая

Баравікова. Вось чамусьці — Джад.

Як не стае мне Фатнева, каб зналі!
І Товара, што тут ні гавары.
Сяброўкі лепшай — Таянковай Валі,
І Ніны Серыкавай... Як у віры

Тут Башлакоў і Шэліпаў кружляюць,
З усмешкай іх лаўлю— яшчэ не вечар.
А вось Някляеў зажурыўся з краю...
Вось і гатовы пацеркі, дарэчы.

Надзену. Як бурштын яны зайграюць,
Сваім цяплом сагрэюць мае плечы.

* * *

*Памяці Івана Кірэйчыка*

Прыехаўшы з далёкае Расеі
(А некалі ж сваёй яна была...)
Пачула твае вершы, і надзея
Дрыготкаю пралескай ажыла:
Што ты жывы, і што яшчэ паспею
Сказаць сваё і дзякуй, і даруй
За тое, што калі гула завея,
Ты не мяне пазваў сказаць: «Ратуй!..»
За тое, што і ты, і твае дзеткі
Сустрэліся, нарэшце, там без нас...
І твае вершы, як жывыя сведкі
Тваёй душы, агонь якой не згас.
За тое, што тваёй самотнай жонцы
Чытаць і перачытваць іх адной,
І ціхай кветкай зіхацець у гронцы
І летам, і ўвосень, і зімой
У зацішку. Ды на тваім грудочку,
Аблюбаваным птушкамі куточку.

* * *

Дзень, як свечка... Сонейка над гаем,
Хор птушыны з лесу выплывае,
Ён цячэ ажно з самога раю
І струменіць песнямі над краем,
Над старонкаю маёю мілай,
Над убогім куранём і вілай,
Над вяночкам, над крыжом пахілым,
Над грудочкам свежае магілы,
Дзе рамонка, ад бяды сівая,
Тварык, як рукамі, прыкрывае
Тонкімі пялёсткамі. Святая
Багародзіца над ёй лунае,
Ноч падсвечнік у руках трымае,
Як агарак месяц,
Зорак стая...

* * *

Нясе мяне нялёгкая —
Машына грузавая!
У вёсачку далёкую,
Што дзень і ноч гукае.

Яна пад сэрцам стукае
Даспелымі арэхамі.
Матуля там унукаў
Чакала, як уцеху

Унукаў цэлы вулей,
Пчаліны рой, дый годзе!
Усцешана матуля
Сустрэла смерць у згодзе.

Паветра на усе лёгкія
Глытаю. Вось і дзічка.
Прынесла ўсё ж нялёгкая
Да чорта на кулічкі.

Абняліся мы з вёскаю,
Нібы гарлачык з раскай…
Ці гэта хвалі плёскат,
Ці голас:
— Калі ласка!

**РАНДО**

Мазыр вільготны ад расы
Агнямі граў на відавоку,
Нібыта ночка паясы
Свае развесіла высока.
І даляталі галасы
Далёкіх цягнікоў да вокан…
Цішком пупышкі ў лазы
Свавольна гладзіў ля асокі
Мазыр.
Ляніва месяц у аблоках
Катаўся, як у масле сыр,
Але ж угледзеў адным вокам,
Як акунуўся ў валасы
Лазы, ажно гарэлі шчокі —
Мазыр.

* * *

Вострае лязо — мая паэзія!
Босая іду па ім гарэзліва,
Хоць і ўся нацялася ад болю,
Як сляза, але ўсё ж ніколі
Праклінаць не стану свайго лёсу,
Як бы цяжка мне ні давялося:
Упаду расою на траву,
Васільком памкнуся ў сіняву,
За прамень схаплюся і —
Жыву!

* * *

*Сястрыцы маёй — Валянціне*

А смеху ўсё меней,
меней...
Зморшчынак
Болей і болей,
Радасць ці задуменнасць?
Сына матуля жэніць.
Як час плыве не паволі!
А рукі помняць малога
І васількі — на кашулі.
Свята. Вяселле. Дарога.
Светла і думна матулі.

* * *

Гады праходзяць...
Хутка як праходзяць!
І дочкі ўжо сваіх дачок народзяць.
Дачцэ пра маці думаць ужо некалі.
Да маці — сёння, заўтра — не паехалі.
А дні бягуць: быў вечар,
і зноў раніца...
Для маці толькі дні так доўга цягнуцца!

І месца не знаходзіць сабе маці
Ані ў суседкі, ані ў роднай хаце.
Ну што рабіць?
Ну як сабе даць рады?
Да донькі — напрасткі?
Ці ж будзе рада?

Гады праходзяць,
Хутка як праходзяць!

* * *

*Сяргею Панізніку*

Закінуў лёс у лес
Мяне і мой «прагрэс»:
Дзяцей — мой пяты клас,
Маіх калег і — Вас.

Нібы з другой планеты
Прышэлец... Не сагрэты
Ні лёсам, ні жанчынай,
У чым прычына?

Сядзіш бы нежывы
У ціхім аддаленні.
Няўжо і вус сівы
Не вучыць прымірэнню?

Праб'е няўмольны час,
Адно пакіне выйсце:
Маліцца за ўсіх нас,
Прасіць
Збавення ў Хрысце.

* * *

*С. П.*

Шум лесу напрадвесні,
Жаданы сэрцу шум.
Трывожны і балесны,
Адчайных поўны дум.

Як музыка, як песня,
Ён кліча за сабой.
І лёгка подзвіг здзейсніць,
Махнуць на ўсё рукой.

І — выбегчы на ганак,
Смяяцца, як дзіця,
І выглянуць з-за рамак

Звычайнага жыцця.

Зрабіць свой не апошні,
Хоць і не першы крок
Насустрач Вам, вяльможны
Пан...
Нібыта незнарок.

**ВАСІЛЮ**

Аднойчы енчыў безумоўку
Мой тэлефон, нібыта чорт.
Твая радня — мая сяброўка —
Званіла. Ці наадварот?

Я слухала... Марудна плётка
Паўзла. Такі ў плёткі стыль.
Мне крыўдна, я — твая залётка,
А ты й не ведаеш, Васіль.

І я ўявіла, што і праўда,
Ты, закаханы ўвесь, прыйшоў
І кветкі падарыў. Суладна
Запелі птушкі пра любоў.

І мы з табой па волі лёсу
Удаль шчаслівыя плылі,
Нам усміхаліся нябёсы
І ў сэрцах — кактусы цвілі.

І я сказала: «Ну, што ж, з'ежце!»
З душы змахнула плётак цвіль...
Калі ж надумаеш, нарэшце,
Ты зазірнуць ка мне, Васіль?

* * *

Ну яшчэ чаго мне
Не хапала!
Гэта вось такога ідэала:
Лысага,
Як тая поўня.
Многа гонару
Табе быць роўняй!
Не,
Не трэба мне твайго кахання.
Лепш пасплю я.
Жонцы — прывітанне!

* * *

Каціўся яблык па роснай траве…
Ты мяне любіш, а я цябе — не!
Прэч ідзі, прэч!
Адразу гара з плеч.

Кацілася торба з высокай гары,
А ў той торбе што хочаш — бяры:
Хлеб, соль, пшаніца…
Ты не хочаш са мной ажаніцца?

Каціўся яблык
Ружовага колеру…
Ты мяне любіш,
А я цябе болей.

* * *

Кірмаш. Я стаю,
І мой лёс каля ног
Сабачым віхляе хвастом.
Не дай бог,
Камусьці не глянецца…
І проста так
Яго падфутболяць,
Нібыта кругляк.

Заплача мой лёс,
Як малое шчаняці,
А нехта падумае:
«Грошы звіняць!»

* * *

Забілі.
Пераехалі.
Растапталі...
Кінулі душу сабакам:
— Ешце!
Не хочуць.
А толькі брэшуць,
                    брэшуць,
                              брэшуць...

* * *

Як з плячэй маіх крыж мой,
Бы з гары паваліўся!
Па сцяжынцы, якую
Валун пратаптаў.
Аж спалохана зоркі
Дрыжэлі увысі
І маліліся Богу
Ліўні росныя траў.

Ні бяды, ні нуды,
Аніякага ліха!
Раптам знікла усё —
Так вадзіца бяжыць
І ў зямельцы знікае...
Толькі сполахі ціха
Танцавалі ў траве,
Там, дзе крыж мой
Ляжыць.

* * *

А я веру ў дабро:
У кветку,
У сцяблінку,
У мураша.
Веру ў добрую суседку
І — у кожнага
Малыша!
Я — зняверaная, веру.
Веру ў хлеб
У надзённы свой,
Веру мужна
У ліст паперы,
Не крануты яшчэ
Рукой.

**ЮБІЛЯРУ**

*Івану Шамякіну*

Мне, людцы, на Шамякіных вязе
З дзяцінства. Ды вы самі пасудзіце.
Абгойсала сцяжыначкі усе,
Дзе сам Пятро Шамякін меў служыць

Грыбамі тыя сцежкі параслі,
Арэшнікам, шыпшынаю, травою…
Аднойчы там крынічаньку знайшлі
З вадзіцай незвычайнаю, жывою.

Дзе на паляне круглае, лясной
У невялічкай зграбнай леснічоўцы
Ляснік Шамякін жыў сваёй сям'ёй
І шмат чаго расказвалі вяскоўцы.

І забягалі часцяком туды
З ахвотаю дарослыя і дзеці.
Іх мёдам частавалі і тады

Вадою абліваліся суседзі.

Суседзі — з бліжніх вёсак грыбнікі.
Бліжэй за ўсіх — Пракопаўка мая.
У нашу школку (трэба ж, лёс такі!)
Хадзіў Іван Шамякін, потым я.

Сцяжынку ў школу помню цераз сад,
Дзе мімаходам яблыкі зрывалі.
Як радваліся дзецьмі: я і брат,
Калі цукеркай нас пачаставалі.

Шчаслівыя прыбеглі мы дамоў
(А год галодны быў, пасляваенны),
Сказала маці пасля нашых слоў:
— Шамячыха прыехала, напэўна.

І вось мы адзначаем юбілей…
Нядаўна і мяне ў Саюз прынялі!
Вязе мне на Шамякіных, але ж,
Вязе з дзяцінства, каб вы гэта зналі.

## ШУКАЙЦЕ ГАЮЧЫЯ СЛОВЫ...

«Ліставей» - так хачу я назваць сваю наступную кнігу, якую складуць шматлікія пісьмы сяброў, знаёмых, блізкіх і дарагіх мне людзей.

«Дзічку» маю ліставей часу толькі пачаў раскалыхваць...

І вось, як сполахі агню ўначы, у памяці ўспыхваюць словы каралішчаўцаў: тых, каго сабраў аднойчы пад сваім крылом (1967 г.) семінар маладых літаратараў.

Такія семінары цяпер праводзяцца ў Іслачы, а тады ў Каралішчавічах, на былой дачы Я. Коласа.

Шчырыя словы маіх сяброў маюць цалючую сілу. Некаторыя з іх я чытала і перачытвала, як замову, па некалькі разоў.

Асабліва ў цяжкую хвіліну. Сагрэюць яны і вас, людцы мае добрыя!

Шукайце гаючыя словы, як шукаюць зёлкі. Дарыце іх адно аднаму. І ў вашай душы аніколі не паселяцца роспач і адзінота.

Пішыце мне. Лісты дасылайце на адрас:

246029, Гомель, а/я 55,

Ніне Шкляравай

*Аўтар*

## АЗІРНІСЯ…

Агонь кастра не патушыць,
Што з Каралішчавіч палае.
*Ніна Мацяш*

P. S.

Божа, што ў цябе за звычка развітвацца: унурыцца

і нават не азіраецца.

Я ўсё яшчэ гляджу табе ўслед. Азірніся!

М. С.

31 мая, 1984 г.
Міхась Стральцоў

Дарагая Ніна!

… З табой мы так і не пагаварылі. Ці не таму, што твае 15 табе усе яшчэ торкаюць пад бок. Супыніся, дзяўчо! Адчуй у сабе Мадону (Матрону?), спаважную і памякчэлую сэрцам! Мір на душу тваю!

Кудравец падпісаў у друк чатыры Кіейевы вершы, № 91. Павіншуй.

Ад цябе вершаў не дачакаюся, мо.

*Міхась*

Адам Русак
15 сакавіка, 1967 г.

Ніна!

Вершы Вашы я адаслаў. У часопіс «Маладосць». Аўрамчыку Міколу.

З прывітаннем!

*А. Русак*

Міхась Стральцоў
12 ліпеня, 1968 г.

Кінь сумаваць, даражэнькая! Свет недасканалы, людзі зласлівыя — ну дык і што з таго! Было б дзіўна, каб было іначай. Зачахлі б мы ўсе са сваёй дабрачыннасцю.

Дальбог, ты перабольшваеш.

Вершы твае я нават прачытаў, быў выпадак: Аўрамчык якраз выцягнуў іх, каб рыхтаваць у № 10. Што затрымка выйшла, дык гэта ж натуральна — чарга. Вершы мне спадабаліся. Дрэнна вось толькі, што ты не дасылаеце новыя, ні нам, ні ў другія рэдакцыі.

*Міхась*

Алесь Разанаў

3 чэрвеня, 1967 г.

Добры дзень, Ніна!

Ці цікава вучыцца? Усё залежыць ад самога чалавека. У прыватнасці, мне тут цікава.

Пры універсітэцкай газеце існуе літаб'яднанне «Узлёт». У канцы гэтага года павінна выйсці ў друк новая кніжка «узлётаўцаў», «Натхненне», мабыць, будзе называцца.

...Ёсць тут навуковыя гурткі. Ёсць умовы і прастор для дзейнасці. Вось так.

З прывітаннем!

*Алесь Разанаў*

Леанід Якубовіч

10 снежня, 1967 г.

Ведаеш, я зараз жыву толькі ўспамінамі аб Каралішчавічах. Вось сарамліва ўсміхаецца Ніна Шклярава, засяроджана пазірае Ніна Мацяш, разгублена варушыць вуснамі Васіль Жуковіч. Божа! А як ты? Якое адчуванне ў цябе, Шклярачка?

*Леанід*

Ніна Мацяш

4 кастрычніка, 1968 г.

Ты скардзішся, Ніначка, што вершы не ідуць. Я як пачую, дык ва ўсіх семінарыстаў нешта сёлета «творчы крызіс». У мяне таксама. Адзінае, што добрага я зрабіла, здала зборнік вершаў у выдавецтва.

Вось такія ў мяне справы, Ніночак-галубочак!

Ну, бывай...

Ага, ледзь не забылася.

З тыдзень таму назад зусім нечакана з'явіўся Разанаў! Праўда, пабыў усяго хвілін дваццаць. Дык мы ўзахлёб перагаварылі гэтыя дваццаць хвілін. І аб чым толькі размовы не было!

Ён таксама здаў зборнік, выйдзе у 1970 г. Так што рабі вывады, Нінок, ды свой аддавай. У цябе ёсць цудоўныя проста вершы.

Пішы, пішы!

*Ніна*

Тамара Федарцова

26 верасня 1968 г.

Нін!

У мяне ўсе добра. Толькі вось нічога не пішу. Ведаеш, гэтыя гектары і нормы выпрацоўкі ў раёнцы мяне зусім завірылі.

Нашуся як чарцянё.

З Вярцінскім і Стральцовым сувязі не падтрымліваю. Яны, пэўна, і забылі, што ёсць на свеце дзіцё чалавечае — Тамара Федарцова.

Ніна, ты бываеш у «Маяку»? Як там маякоўцы маюцца? Хто гэта У. Гулевіч? Ці працуе Косця? Ці не жаніўся Бродскі? Як Цыганкова?

А я на кватэры жыву. Праўда, у мяне ўтульненька. І гаспадыня добрая. Іншы раз мне што-небудзь і зварыць.

Пішы. Ты для мяне як той агеньчык уначы. Не дойдзеш, а глянеш — і на душы святлей.

*Тамара*

Леанід Якубовіч
28 кастрычніка, 1968 г.

Чаму ж ты маўчыш, чаму не пішаш, Шклярачка? І што з табой зрабілася? Ніна, калі ласка, пішы. Аб усім, аб усім. Дай мне падыхаць паветрам таго асяроддзя, у якім ты жывеш. Студэнцкага, літаратурнага. Што пішуць нашы каралішчавічане?

*Л. Якубовіч*

Ніна Мацяш
6 ліпеня, 1968 г.

Сёння ж напішу і перашлю паштоўкі Марыі Баравік, Валі Коўтун, Артуру з Аркадзем, Кірвелю і Масарэнку, Жуковічу і Разанаву (калі ён не паехаў на цаліну). Не ведаю, калі збіраецца прыехаць Вярцінскі.

Было б цудоўна сустрэцца ўсім, ці ж не так? Калі хоць трое будуць, усё роўна гэта сустрэча жаданая.

*Н. Мацяш*

Ніна Мацяш
4 жніўня, 1968 г.

Ніночак!

Чаму ж ты не прыехала? Тры дні падыходзілі хлопцы да брэсцкага аўтобуса, а ты так і не з'явілася.

Наогул, прыехалі толькі Кірвель, Жуковіч, ды Воўка Васілевіч. Усяго было: і песень, і вершаў, і дасціпных жартаў, і сур'ёзнай размовы. Так чакалі цябе. Што здарылася?

*Н. Мацяш*

Ніна Мацяш
4 сакавіка, 1969 г.

Як табе працуецца ў рэдакцыі? Баравік піша, што дарэмна ты пайшла туды. Заядуць штампы і нястача часу.

З Алесем Разанавым я так і не наладзіла перапіскі. Па Якубовічавых словах (ён бачыў яго ў час зімовай

сесіі) пераводзіцца ці ўжо перавёўся ў Брэсцкі педагагічны.

Напішы мне пра сябе. Ведаю, што ў «Беларусі» ідуць твае вершы. Віншую! Калі будуць у нас, абавязкова дастану пачытаць. Ці бачыла ты альманах «Дзень паэзіі, 1969». Там твой і Валі Коўтун вершы, мой пераклад.

Цалую.

*Ніна*

Алесь Масарэнка

13 кастрычніка, 1969 г.

Прывітанне!

Ну і ну! Гэта ўжо мне, павер, падабаецца, ты разгубілася. Так, я сапраўды «стары корч». Але што рабіць, калі гэты стары корч вельмі глыбока сядзіць у глебе і выбіць яго з зямлі не так і лёгка. Толькі ў яго не ногі-віхры (здорава!), а проста карэньчыкі, з якіх (я бачыў) дзяды плятуць кашолкі…

Гляджу, перачытваю пісьмо і здаецца мне, што гэта след лісы, якая старанна зацерушыла свой след снегам, бо калі бегла, то здорава прыпарушвала яго сваім пухкім хвосцікам. Гэтак вось віль-віль… От і ты так… Ой, разумніца. Сказана — пісьменніца.

Даруй за жарты.

Пішы.

*А. Масарэнка*

Марыя Баравік

2 мая, 1970 г.

Стамляешся другі раз ад пустога занятку, ад якога ні сэрцу, ні рукам задавальнення ніякага.

Тады не хочацца ні пісаць, ні спаць, ні есць…

Але ж цябе ці ж можна забываць? То ж грэх, разумееш, гэтакую цудоўную Шкляраву ды з сэрца выкінуць…

А вось з газетай адважылася развітацца. Няма здароўя ў самой, а пра маці і гутаркі не можа быць…

*Марыйка*

Ніна Мацяш
4 кастрычніка, 1970 г.

А Вярцінскі ўсё-такі быў! Праўда, вельмі-вельмі мала. Яму трэба было тэрмінова ехаць. Чакала Ялта, Дом творчасці. Успаміналі цябе.

Нядаўна прыслаў пісьмо Жуковіч. Піша, што Артуру далі кватэру. Цяпер Артур Цяжкі ягоны сусед нават.

Разанаў настаўнічае у адной з дзесяцігодак Брэстчыны у Камянецкім раёне. Думае паступаць у аспірантуру.

Марыйка Баравік адгукнулася. Маці яе не папраўляецца, не ўстае з ложка... І як памагчы чалавеку, як?..

Што з тваім зборнікам, Ніна?

Калі выйдзе?

*Ніна*

Таіса Бондар
24 снежня, 1971 г.

Разумееш, мы з табой знаходзімся на розных полюсах жыцця. Шмат было ў мяне чорных дзён, таму я не магу з такім замілаваннем, як ты, адносіцца да ўсяго. Ты — гэта нейкая радасць, святло. І нават твая наіўнасць адсюль. Я не магу радавацца да канца.

Я збегла. Так. Але што мне было рабіць, калі я была такая шчаслівая у Каралішчавічах, а трэба было гэта ўсе вырваць з сэрца.

*Таіса*

Яўгенія Янішчыц
і Вольга Іпатава

Ніна!

Я цяпер у раз'ездах, дома бываю рэдка. Сын на поўдні, я ўчора прыехала з Маларыты. Жэня бывае дома часцей, можна было б нам неяк сустрэцца разам і паглядзець уласныя творы.

Дзякуй за дапамогу ў час стыхіі.

Што датычыць тваіх расчараванняў — дарэмна.

Дарагая Ніна!

Вельмі хацелася сказаць табе пра многае, у тым ліку і пра расчараванне. У лісце ўсяго, ды як і патрэбна, не напішаш. Лепш — жывое слова. А таму мы з Оляй чакаем Цябе ў госці. Будзеш мець вольны час — прыязджай. Дзе жыве Оля — ведаеш, а дзе я жыву — адрас на канверце.

Чакаем.

Мы.

*Ж. Янішчыц*
*В. Іпатава*

Нэля Тулупава

27 кастрычніка, 1977 г.

Ніна!

Ты вялікі камбінатар. Не адказала мне на ліст, а закідваеш вуды.

Жыццё, наогул, штука цікавая. Кудысьці імкнёмся, чагосьці душы трэба, а як дасць капытам пад дыхавіну, дык аказваецца, трэба толькі адно — здароўе!

Так што лячы дзіцянё. Гэта — першае. Не кідайся, гэта — другое. Калі няма натхнення, ёсць паратунак — займацца, працягваць універсітэты. Гэта будзе так званы працэс накаплення.

Навін няма. Усё, як тады. Ціна-руціна. Таіса Бондар без хаты, без Саюза, без працы. Трэці год. Сумна, а памагчы некаму. Кожны сам па сабе.

Вольга прыязджала. Быў захварэў Русік. Ёй засталося год вучыцца. Можа, захочаш напісаць ёй, то вось адрас: Масква, вул. Дабралюбава, 9/11... Інтэрнат літінстытута.

Жэня-Яўгенія жыва-здарова. Выступае. Сама табе піша.

Абдымаю.

*Нэля*

Яўгенія Янішчыц

1 мая, 1968 г.

Бадзёрасці, маладосці табе і натхнення, без чаго немагчыма жыць і змагацца!

*Ж. Янішчыц*

Анатоль Вярцінскі

28 кастрычніка, 1980 г.

Не кажы, што ўжо ўсё «адбалела». Пакуль чалавек жыве — яму баліць. Ці не так? А вось калі ўжо нічога і нідзе не баліць, тады, значыць, ён памёр. Боль — гэта жыццё.

Будзь здарова!

*А. Вярцінскі*

Ніна Мацяш

10 красавіка, 1974 г.

І праўда, даўно не пісалі мы адна адной…

Я радуюся, што аказваюся менавіта тым чалавекам, з якім хочацца пагаварыць у цяжкую хвіліну. Ад гэтага ў мяне самой прыбаўляецца сіл. А сілы патрэбны кожны міг. Цяпер асабліва…

Дзякуй табе, суседзе,
За твой нечаканы дар,
Калі і ёсць яна недзе,
Казачная вада,
Жывая вада, якую
Адшукваюць на загой,—
Прынесеную табой
Глыткамі яе смакую.
Зусім звычайнае дзіва:
Бярозавы сок. З небыцця
Бярозавы сок радзімы
Вяртае мяне да жыцця.

*Ніна*

Міхась Стральцоў
31 мая, 1984 г.

Заўтра я з Карамазавым на колькі дзён еду на Магілёўшчыну — божа! Праз восем год, калі быў там апошні раз...

А дамой хочацца. Бо што ні кажы, дом у нас адзін, той, што з калыскі. Туды б, урэшце і прывалачыся варта ў недзе наканаваную нам апошнюю часіну, на той парог, на які бог усадзіў: няхай бы і прымаў ужо адтуль.

*Бывай*

Ніна Шклярава
1 студзеня, 2001 г.

ТРЫЯЛЕТ
Як дзьмухаўцы цвілі гады
І дзе ж цяпер дзянёчкі тыя?
Былі пялёсткі залатыя.
Як дзьмухаўцы цвілі гады.
А скроні свецяцца сівыя —
Вачам сваім не верыш ты...
Як дзьмухаўцы цвілі гады
І дзе ж цяпер дзянёчкі тыя?

# ЯК БЫЛО І ЯК ЁСЦЬ...

Іх баяліся. І яны прыйшлі... Старэйшая сястра Паша ліхаманкава сунула нешта мне пад паху, шапнула: «Схавай. Лезь на печ, грэй жывот».

Я лузнула на чарэнь. Там ужо стаіліся брат Сцяпан і сястрыца Прося. Штосьці выслізнула ў мяне з-пад рукі. Гэта быў такі знаёмы мне здымак... Я хуценька схавала яго пад падушку. Ніхто і не заўважыў.

ГПУ (так назвала сястра незнаёмцаў) перавярнула ўсё дагары нагамі, але ж нічога не знайшло.

А шукалі яны картачку, на якой быў святар Ціхан[5]

упэўнена заверыла мяне мая субяседніца. Калі я спыталася, ці можна мне напісаць пра гэта, пачула: «Ты пішы, што хочаш, а я табе расказала, як яно было». Так закончыла свой сказ мая апошняя, родная, 80-гадовая цётка Люба з вёскі Лук'янаўка, што на Гомельшчыне.

З гэтай жа вёскі была і мая маці — Еўфрасіння. А яшчэ ў матулі былі аж чатыры сястры і двое братоў. А ў суседняй вёсцы Дубраўка — сваячніца матушка, жонка рэпрэсаванага бацюшкі, якую наведвалі і даглядалі манахіні і вернікі з акалічных вёсак. Там і сустрэліся мае бацькі — Нічыпар і Прося. Нічыпар са сваёй сястрыцай Лексай хадзілі сюды маліцца аж з Пракопаўкі (гэта недзе кіламетраў трыццаць). Пасля смерці матушкі набажэнцы прыбіліся да цёткі Лексы. У гэтай жа хаце, на дзядзінцы, нарадзілася і я (10 снежня, 1947 г.). Там і правяла амаль усё сваё маленства.

Вечарам пад спеў псалмаў засынала, раніцай з імі ж і прачыналася.

Усё гэта адлюстравалася ў маёй душы, якая і цяпер струменіць, нібы зарослая крыніца, што раптам прабілася на волю.

Так з'явілася першая кніга маіх вершаў... «Мая вёска» (1971 г.), затым другая «Міг і вечнасць» (1979 г.). І вось праз гады, як стомлены вернік пасля доўгай дарогі, прыйшла я да сваёй «Дзічкі».

З вашай дапамогай, добрыя людзі!

З вашай верай у мяне.

Дзякуй вам, сябры маеназваныя і спамянутыя!

---

[5] З адваротнага боку здымка — пячатка

Нізкі паклон Вам, Аляксей Аляксеевіч Касцючэнка (нафтаправод «Дружба»).

З нязменнай удзячнасцю за своечасовую падтрымку звяртаюся і да Вас, паважаны Аляксандр Кірылавіч Прусаў (упраўленне культуры).

Дзякуй вялікі таксама Уладзіміру Уладзіміравічу Казлову (аддзел культуры).

І Вам, шаноўная Алла Іванаўна Асіпчук (таварыства «Кніга»).

Вам, Валянціна Пятроўна Дубрава (абласная бібліятэка).

Вам, Таццяна Савельеўна Уласава (бібліятэка імя Герцэна).

Кланяюся роду свайму і зямельцы нашай.

*Дзічка*

## РАНДО

Мой верш — мелодыя найперш,
Яна, як першае каханне,
Прыйшла, не ведаючы меж,
Знайшла ў душы адлюстраванне.
Аж сэрцайка зайшлося! Лепш
Не знаць такога знітавання...
На волю вырваўся, але ж,
Як і каханага дыханне —
Мой верш.

І зноў душа як птушка каня,
Што вечна просіць «піць». І дзе ж
Той дзіўнай музыкі гучанне?
... Як добра, што не забярэш
Яго з сабой, як і прызнанне —
Мой верш.

## ЗМЕСТ

Ліст Вольгі Іпатавай
«Я не маўчу, мая сяброўка...»

**ЗАВЯЗЬ**[6]
«Як толькі цётка псалмы распявала...» (Святару Ціхану)
«Некалі царква стаяла тут...»
Святары
«Слухайце, яшчэ адна знаёмая...»
Эратычны нацюрморт (М. Башлакову)
«Імчыць і мой цягнік...»
Пра любоў
«Мамачка, з якім даверам...»
Родная хата
«Ці то травы ў росах...»
«Выйдзі, бацька, на балкон, пабач...»
«Ведаеце, сёння я плакала спрасоння...»
Споведзь
«Ноч. Дарога шорхае аб днішча...» (Я. Янішчыц)
Тэрцыны
Пралеска
«Я нібы жабяня зледзянелае...»
Пакуль ідзе... (Э. Усціновіч)
І жартам, і ўсур'ёз
Усю ноч ішоў дождж
Добра, калі
«Зноўку навальніца ўсю ноч...»
«Вось і дзень спякотны...»
«Каму я гэтым шчасцем абавязана?..»
«Ноч як хусткай ахінула плечы...»
«Прыйдзі, прыйдзі, прыдзіра...»
«Крочу, быццам па ільду...»
«Аніяк не спіцца...»
«Мне прысніўся твой ліст да мяне...»
«Пра цябе я сніла...»

[6] Ф. Яфімаў. Завязь таленту// Літаратура і мастацтва. — 1971. — 19 лістапада.

Хатынь
Перабудова
«Усюды квадраты…»
«Еду да роднай цёткі…»
Ліхтар адзіны на знямелай вуліцы»
«Пакуль Чарнобыль у душу глядзіць…»
«Калі не станеш прэзідэнтам…»
Шчасце

**ПЯЛЁСТКІ**

«Падлесак стаў даўно хваёвым лесам…»
Пялёсткі (паэма)
«Няўжо нехта яшчэ вершы піша?..»
Збіраю шолахі
«Не для адводу ад людскіх вачэй…»
«Твая душа неўтаймаваная…» (В. Таянковай)
Як разгарэліся ў траве жарынкамі суніцы
«Лепей будзе, ці горай…» (Л. Возісавай)
Сяброўка
Ісціна (Людміле)
Памяці М. Стральцова
Вершы мае, мае летуценні…» бі
«Губляе бэз бесперапынна…» (Н. Серыкавай)

**ЯБЛЫЧНЫ СПАС**

Вам
«Яблыкі на Яблычнага Спаса…»
«Захацелася мне ведаць…»
«Вуснамі лаўлю тваё дыханне…»
«Разлагодзішся, разлзгодзішся…»
Не такі, як усе
Я не для Вас
«Ну, што ты кажаш?..»
«А нядаўна так шумела…»
«Ветразь скача нібы лось…»
«На старэнькім, як сама, пяньку…»
«Сонца расплюшчыла вока сваё…»
«У творы акунуўся з галавою…» (Ю. Фатневу)

«Прывітанне, Юра…»
«Не прыехала, а так чакалі…»
«Прыехаўшы з далёкае Расеі…» (І. Кірэйчыку)
«Дзень, як свечка…»
«Нясе мяне нялёгкая…»
Рандо «Мазыр»
«Вострае лязо — мая паэзія…»
«А смеху усё меней…» (Валянціне)
«Гады праходзяць…»
«Закінуў лёс у лес…» (С. Панізніку)
«Шум лесу напрадвесні…» (С. П.)
Васілю
«Ну, яшчэ чаго?..»
«Каціўся яблык па роснай траве…»
Кірмаш
«Забілі» (Надзеі)
«Як з плячэй маіх крыж мой…»
«А я веру ў дабро»
Юбіляру (Івану Шамякіну)

**ЛІСТАВЕЙ**
Шукайце гаючыя словы
Азірніся
Як было і як ёсць

* * *

Ой, ляцелі птушкі,
Птушкі-невялічкі,
Чаму поўны смутку
Вочы маладзічкі?

Чаму поўны смутку
Вочы маладзічкі,
Што, сядзіць у садзе
Пад грушаю-дзічкай.

Пад грушаю-дзічкай,
Дзе цячэ крынічка...
Дзе цячэ крынічка,
Была ў ветра звычка,

Была ў ветра звычка —
Трэсці грушу-дзічку.
Трэсці грушу-дзічку,
Як лёс маладзічку.

Ой, ляцелі птушкі

*Мелодыя Валянціны Таянковай*